ЖЫЦЬЦЁВЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ

# Апошняй сапраўды памірае надзея



*Як ні,пільнаваў наш фотакарэспандэнт на выбарчым участку засьпець хоць які-небудзь масавы паток грамадзянаў, нічога з таго не атрымалася. Пададзеныя тут здымкі адлюстроўваюць самыя характэрныя моманты «народнага волевыяўленьня» магілёўцаў у нядзелю, 4 красавіка. Згодна паведамленьняў незалежных назіральнікаў і журналістаў, прыкладна так праходзіла галасаваньне і ў іншых гарадах. Між тым, як урачыста паведаміла падуладная Цэнтральная выбарчая камісія, выбары ў цэлым па краіне пасьпяхова адбыліся...*



**У нядзелю праходзіў заключны акт выбарчага шоў:«Выбары ў мясцовыя саветы». Наш карэспандэнт наведаў два выбарчых участкі, дзе праходзіла галасаваньне й зьвярнуўся да тых, хто прыйшоў галасаваць, з наступнымі пытаньнямі:**

*1. Што кіравала Вамі ў Вашым жаданьні ўзяць удзел у галасаваньні?*

*2. Што Вы чакаеце (і ці чакаеце?) ад новага складу саветаў?*

*3. Ці маюць яны мажлівасьць штосьці зьмяніць у нашым жыцьці?*

*4. Ці вядомыя Вам хто з кандыдатаў?*

***Уладзімер, 40 год, часова не працуе, прыйшоў з жонкаю й дачкою:***

*1. – Усіх пакрэсьліць!..*

*Жонка выказалася больш аптымістычна:*

*1. – Аддаць голас. 2. – Маю надзею на зьмены...*

***Жанчына гадоў 40 (хоць неяк прадставіцца адмовілася):***

*1. – Абавязак. 2. – Чакаю зьменаў у эканамічным жыцьці краіны. 3. – Нейкую ролю яны гуляюць. 4. – Нікога ня ведаю. Але-ж іх вылучылі ў калектывах, а значыць яны лепшыя.*

***Віктар Міхайлавіч, 45 год, рабочы:***

*1. – Па завядзёнцы. 2. – Ёсьць надзея на зьмены. 3. ... 4. – Ня ведаю нікога, а хацелася б сустрэцца, каб паслухаць кандыдатаў, скласьці ўяўленьне пра іх інтэлект.*

***Мурашка Сьвятлана Васільеўна, 35 год, служачая:***

*1. – Абавязак. 2. – Пераменаў. 3. – Нічога ня зробяць. Засталася адна толькі надзея. 4. – Штосьці чула пра аднаго.*

***Зьмітро Сяргеевіч, 22 гады:***

*1. – Эканомія сродкаў. Калі выбары не адбудуцца – наступны тур будзе праводзіцца за кошт мясцовага бюджэту. 2. – Пераменаў. 3. – Цяжка сказаць. 4. – Не, ня ведаю, бо перадвыбарных сустрэчаў не было.*

***Аляксей Іванавіч, 76 год:***

*1. – Абавязак. 2. – Карысьці ня будзе. Як было – так і застанецца. 3. – Не, ня здольныя яны нічога зьмяніць.*

***Мужчына, 50 год:***

*1. – Традыцыя. 2. – Надзеі няма, бо ведаю кандыдатаў. Вось адзін зь іх у сваёй праграме абяцае навесьці чысьціню й парадак у мікрараёне. Але-ж ён па пасадзе адказны менавіта за гэта, бо ёсьць намесьнікам дырэктара завода імя Куйбышава па камунальнай гаспадарцы. І гэты мікрараён яму падведамасны. Вы прайдзіце і паглядзіце, які навокал бруд...*

***Дзьве бабулькі, што прыйшлі разам, далі такі адказ. Першая:***

*– Ай, як ёсьць, так і ладна.*

***Другая-ж, маючы на ўвазе маю беларускую мову, з выглядам перавагі прамовіла:***

*– А мы не панімаем немецкого языка. Мы не беларусы, мы – рускіе і немецкого языка не панімаем.*

***Чарных Галіна Іосіфаўна, 44 гады, вядучы інжынэр:***

*1. – Абавязак. 2. – Надзеі на зьмены няма. 3. – Рэальнай улады дэпутаты ня маюць. Жаданьне можа і ёсьць, аднак-жа мажлівасьці няма. Мне здаецца, што з часоў «перестройкі» ад іх нічога не залежыць. 4. – Кандыдатаў ня ведаю. Праграмаў не чытала. У сваім выбары кіравалася зьвесткамі з пададзеных біяграфіяў: галоўнае, каб не былі зьвязаныя з камэрцыйнымі структурамі. Увогуле-ж арганізацыя выбарчай кампаніі сьведчыць пра заклапочанасьць ёю ўлады.*

***Якую-ж выснову з гэтага зрабіць? Мне падаецца, што як ні старалася афіцыйная прапаганда, людзі ставяцца да саветаў менавіта так, як яны таго заслугоўваюць. Можна з упэўненасьцяй мовіць, што ўдзел у галасаваньні людзі бралі па традыцыі. Насамрэч яны ня маюць ілюзіяў адносна мажлівасьцяў саветаў паўплываць на іх жыцьцё. Засталася толькі адна незразумелая надзея, прычым – ні на што, проста – надзея. Прыход-жа некаторых на ўчасткі быў абумоўлены пагрозаю правядзеньня другога туру за кошт мясцовага бюджэту. А гэта ёсьць, у ліку іншых, дадатковым сьведчаньнем несвабоды выбараў.***

*Валадар ЦУРПАНАЎ*

КРОНІКА ТЫДНЯ Ў ПАДЗЕЯХ І ФАКТАХ

## Як адзначаў Дзень гумару Малады Фронт

**Зь мінулага года магілёўскія маладафронтаўцы адзначаюць так званы Дзень гумару.**

Гэтым разам акцыі быў нададзены дэвіз:«Провады зімы – провады Лукі». Сьмецьце (натуральнае і сымбалічнае), якое за апошнія гады назапасілася ў двары, дзе туліцца офіс Фронту, было вырашана сабраць і зьвесьці ў адпаведнае месца. Аб своеасаблівым суботніку ягоныя актывісты папярэдзілі суседзяў-камэрсантаў, тамтэйшых жыльцоў, апрэч таго –«роднае» аддзяленьне міліцыі.

У 15 гадзінаў у двары быў урачыста ўзьняты бел-чырвона-белы сьцяг – і работа закіпела. Паціху, махнуўшы рукой на сьцяг і дэвіз, да яе далучыліся пэнсіянэры, камэрсанты, што маюць у тым-жа двары свае прытулкі, нават зазірнулі два-тры міліцыянты. Але ўзяць у рукі рыдлёўкі ці граблі яны адмовіліся. Затое прайшлі ў офіс і папрасілі (!) даць ім для знаёмства Праграму і Статут Народнага Фронту. Аказалася, што гэтыя«форменныя» хлопцы ёсьць курсантамі школы міліцыі, у якіх хутка іспыт па«палітыцы». Фронтаўцы ахвотна выдалі курсантам праграмныя дакумэнты, якія ніколі, дарэчы, ні ад каго не хавалі. Цікава толькі, ці змогуць вычытаць з Праграмы і Статута міліцэйскія курсанты пра той«экстрэмізм», якім пужаюць людзей дзяржаўная тэлевізія і міліцэйскае начальства. А калі ня вычытаюць, то зь якой верай у правільнасьць«разгонных» загадаў будуць дзейнічаць у сваёй службовай практыцы?..

У прыцемках, стомленая й задаволеная зробленым, фронтаўская моладзь ўрачыста зьняла сьцяг і разыйшлася па хатах. Уражаныя наведзеным парадкам і тым, што з«апазыцыянэрамі» можна мець справу, камэрсанты паабяцалі прафінансаваць асфальтаваньне двара.

Такім чынам зіму праводзілі. Вясну сустрэлі. За другой часткай замоўленага дэвізу пакуль супынка. Моладзь верыць, што яна не працягнецца далей за травень...

*Андрэй КАВАЛЁЎ,*
*старшыня магілёўскае філіі Маладога Фронту*



## Уважліва трасеце замежную гуманітарку

**Нечаканы падарунак атрымала пэнсіянэрка з райцэнтра Чэрыкаў, калі пачала знаёміцца са«зьместам» гуманітарнай пасылкі ад замежнай дабрачыннай арганізацыі.**

Яе радасьць выклікалі ня толькі прадукты харчаваньня, што ўтрымліваліся ў вялікай картоннай скрыні. Калі жанчына з папяровага пакету перасыпала муку ў шкляны слоік, то заўважыла нейкую зялёную паперку. Гэта былі 100 амэрыканскіх даляраў, пакладзеных туды нейкім добрым чалавекам з Захаду. Фактычна, бабуля нечакана атрымала сваю ледзь не гадавую пэнсію.

## Абаронцы працоўных абралі шлях перамоваў

**Фэдэрацыя прафсаюзаў Беларусі («традыцыйныя прафсаюзы») ня будзе ўдзельнічаць у агульнабеларускім страйку, які наладжваюць Свабодныя прафсаюзы.**

Пра гэта паведаміў кіраўнік ФПБ Уладзімер Ганчарык на сустрэчы з актывам«школы камунізму» ў Бабруйску. Прафсаюзны бос, канешне, ня мог не пакрытыкаваць сёньняшнюю эканамічную палітыку ўладаў. Але даводзіў зале, што рэзкія пратэсты толькі пагоршаць сытуацыю. Таму«спакойныя і дзелавыя» перамовы з урадам зьяўляюцца адзіным сродкам вырашэньня насьпеўшых праблемаў. Перамовы гэтыя ФПБ гатовая весьці які заўгодна працяглы час. Нават калі зьместам і вынікам гэтых перамоваў будуць самі перамовы.

*Падрыхтаваў Сымон ГЛАЗШТЭЙН*

КРОНІКА ТЫДНЯ Ў ПАДЗЕЯХ І ФАКТАХ

